# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 4 (935) ГОД XIX БЕЛАСТОК 27 СТУДЗЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

* * *

*...О, мова беларуская! Твой гук заўсёды,*
*Як рэха даўніх дзён.*
*Ты мова мірнага, сардэчнага народа,*
*Ніў, пушчаў перазвон.*
*Там, дзе славян пануе слова,*
*Звініш струною жаўруковай,*
*Духмяная, як лета, мова,*
*Блакітная, як лён.*

**Віктар Гамуліцкі**

*пераклад з польскай мовы*
*Максіма Танка*




Упершыню выбіраем найбольш актыўнага карэспандэнта года, але конкурс наш адгэтуль будзе працягвацца штогод.

Карэспандэнты і плёны іх працы ў „Ніве" за 1973 год прадстаўляюцца так:

Карэспандэнты апублікавалі 288 інфармацый і артыкулаў (без „Парнасіка").

Карэспандэнтаў, пішучых у 1973 годзе, было 68 асоб (без „Парнасіка").

Інфармацыі і артыкулы датычыліся 95 вёсак.

**А ВОСЬ КАРЭСПАНДЭНТЫ І КОЛЬКАСЦЬ ІХ ПУБЛІКАЦЫЙ**

| | |
|---|---|
| **Мікалай Панфілюк** | **36** |
| **А. С.** | **27** |
| **Наглядальнік** | **24** |
| **Ларс** | **23** |
| **Нестар Перавой** | **15** |
| **Віктар Бура** | **14** |
| **Мікола Краўчук** | **14** |
| **Міхась Матвеюк** | **9** |
| **К. Т.** | **8** |
| **Н. Андрэюк** | **8** |
| **Васіль Асеннік** | **7** |
| **Мікалай Гогель** | **7** |
| **Павел Гутнік** | **6** |

**А ВОСЬ МЯСЦОВАСЦІ, ЯКІХ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ ДАТЫЧАЦЬ**

| | |
|---|---|
| **Дубічы Царкоўныя** | **23** |
| **Шудзялава** | **12** |
| **Бельск** | **12** |
| **Грэдалі** | **11** |
| **Белавежа** | **9** |
| **Гарадок** | **8** |
| **Плёскі** | **8** |
| **Кляшчэлі** | **7** |
| **Грыгораўцы** | **7** |
| **Міхалова** | **6** |
| **Тапчыкалы** | **5** |
| **Тапаляны** | **5** |
| **Дубяжын** | **5** |
| **Варшава** | **5** |

**ЛІЦЭІ**

| | |
|---|---|
| **Бельскі беларускі ліцэй імя Б. Тарашкевіча** | **8** |
| **Гайнаўскі беларускі ліцэй** | **5** |
| **Міхалоўскі лацэй** | **2** |

**ХТО КАРЭСПАНДЭНТ „НІВЫ"**

Дарослыя і моладзь. Усё больш маем карэспандэнтаў з ліцэяў — Бельскага, Гайнаўскага, Міхалоўскага.

**ПА ПРАФЕСІІ:**

Гаспадары, настаўнікі, вучні, студэнты, працаўнікі розных устаноў і фабрык, рабочыя, пенсіянеры, бібліятэкары, лекары.

**Псеўданімамі і ініцыяламі** падпісваюць свае карэспандэнцыі 24 асобы з 68 усіх. (Іх імёны і прозвішчы па іхняй просьбе астаюцца да ведама рэдакцыі). Значыць, большасць нашых карэспандэнтаў падпісваецца поўным імем і прозвішчам.

Нашы карэспандэнты ўмеюць выбіраць цікавыя псеўданімы, цесна звязаныя з беларускай традыцыяй, асабліва з беларускай літаратурай, напрыклад: **Кузьма з Бяндзюгі, Суседка Міхаліна, Тарас Крушына, Сусед Толік, Кастусь.**

Бываюць інфармацыі супольныя — двух, або цэлай групы аўтараў. Супольныя інфармацыі пішуць толькі маладыя.

**(Працяг на стар. 4)**



*„Белавежа" канцэртуе на Цэнтральных дажынках.*

**У нашых самадзейнікаў**




Хтосьці гаварыў, што белавежскія традыцыі ў галіне мастацкіх калектываў даўно мінулі. Так яно і было, але хапіла аднаго ці двух штуршкоў, каб у Белавежы паўстаў новы мастацкі калектыў.

Упершыню мы ўбачылі мужчынскую групу на мінулагоднім аглядзе „Беларуская песня — 73". Праўда, тады „белавежскім хлопцам" не найлепш пайшло (бо, вядома, цэнтральны агляд, поўная зала крытыкаў), але яны паступілі, як сапраўдныя мастакі, — пачалі больш працаваць над сабой, развівацца.

Пра белавежскі харавы калектыў загаварылі ў самой Гайнаўцы, як у Белавежы, так і ў Гайнаўцы пачалі думаць пра канцэрты калектыву ў сталіцы павету. Дагаварыліся. Першы канцэрт спадабаўся настолькі, што трэба было арганізаваць наступныя. Нягледзячы на тое, што ўваход быў платны, людзей заўсёды былі поўныя залы. Гэта не магло не падбадзёрыць спевакоў.

Гайнаўскі аддзел БГКТ запрапанаваў гарадскому ў Беластоку канцэрт белавежскага хору.

Канцэрт мастацкага калектыву песні і танца „Белавежа" адбыўся ў памяшканні Галоўнага праўлення на Варшаўскай. Мы вінаваты чытачу выясненне назвы калектыву. Не ведаем, ці былі афіцыяльныя „хрысціны", але самі самадзейнікі называюць калектыў „Белавежа".

Праграма калектыву багатая і разнастайная. У ёй песні польскія, беларускія, рускія, народныя. Песні выконвае мяшаны хор, жаночая група, мужчынская, дуэты і салісты. Асабліва хацелася б падкрэсліць вельмі моцную і роўную мужчынскую частку калектыву. Падкрэсліваем гэта таму, што аматарскія калектывы наогул адчуваюць недахоп добрых мужчынскіх галасоў.

На танцавальную групу калектыву нельга не звярнуць увагі. Кіруе ёю Янка Крупа. З таго, што паказалі яны на

**(Працяг на стар. 3)**



*Вакальны калектыў з Белавежы на цэнтральным аглядзе.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Даць мільён! • Настаўніца з Трасцянкі • Літаратурная старонка • Баль на 400 пар • І так бывае • Хвароба і цудоўнае выздараўленне Гапкі • Цётка (Элаіза Пашкевіч) • Пра добрае жаночае сэрца (Гарадок) • Паліто на вясну • Весткі з Чыжоў, Валілаў, Орлі, Міхалова, Сідры, Шудзялава і інш. • Песня з рэпертуару Чэслава Немана «Елочки-соселочки».**

**СКАЧОК У БУДУЧЫНЮ**




Пачалося ад вершаў. Каб атрымаць навагоднія падарункі, дзеці вымушаны былі пахваліцца тым, чаму навучыліся.

Першы выступіў шваграў сын. Вядома, гарадскі, смялейшы. Ён гучна прачытаў пачатак Міцкевічаўскага „**Пана Тадэуша**". Тады я паглядзеў на свайго Янку. Ён у мяне найбольш здольны да вершаў. Нават сам іх ужо складае. Ён пачаў:

*Даражыць табою колькі,*
*Беласточчына, мой родны кут,*
*Той добра знае толькі,*
*Хто нарадзіўся і вырас тут.*

Усе згодна пахвалілі Янку, бо верш спадабаўся. Прыемна было мне пачуць ад уласнага сына, што любоў да роднай зямлі яму ўжо не чужая.

— Як думаеш накіраваць сваіх дзяцей? — запытаў у мяне швагер.

— Што ж, хай вучацца, — гавару яму. — Малодшыя яшчэ ў пачатковай школе, а дачка, старэйшая — у гайнаўскім ліцэі. Яна хоча быць лекарам. Як добра пойдзе праз два гады будзе здаваць у Беластоцкую медыцынскую акадэмію. Чытаў я, што ў гэтай самай старэйшай на Беласточчыне вышэйшай навучальнай установе ў 1980 годзе будзе вучыцца 1 800 студэнтаў. Атрымаюць яны яшчэ адзін „Дом студэнта" на 600 месц. З кватэрамі для студэнтаў не будзе ўжо тады такой бяды, толькі нямногім з іх прыдзецца шукаць жылля на прыватных кватэрах.

— А калі не прымуць яе ў акадэмію? — заўважыў швагер.

— Што ж, усяляк можа быць. Перш за ўсё гэта залежыць ад яе. Тады пойдзе працаваць або вучыцца ў іншую школу. Беласточчына праз пяць-шэсць гадоў будзе патрабаваць каля 120 тысяч спецыялістаў з прафесіянальнай сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Без добра падрыхтаваных да працы людзей няма што цяпер марыць аб хуткім прагрэсе. А найбольш нам, аказваецца, трэба інжынераў і магістраў, перш за ўсё настаўнікаў. Таму ў Беластоку хутка разбудоўваюць Вышэйшую інжынерную школу і філіял Варшаўскага універсітэта. Я хацеў бы, каб у настаўнікі пайшоў мой Янка, а Юрка — каб стаў інжынерам. Ён у мяне самы малодшы. Пакуль дарасце да студэнтаў, у Вышэйшай інжынерскай школе ў Беластоку будзе вучыцца ўжо амаль 3,5 тысяч чалавек. Пачнуць будаваць для іх акадэмічны пасёлак. Усе факультэты атрымаюць свае асобныя будынкі. Для патрэб студэнтаў запланаваны два новыя інтэрнаты на 600 месц кожны.

**(Працяг на стар. 4)**

**Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі**

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## СВЕТ

### ДРУГАЯ ФАЗА

У Жэневе распачалася другая фаза канферэнцыі ў справе бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. Гэта нялёгкая нарада. У адносінах да кожнай са спраў, якія абмяркоўваюцца на канферэнцыі, абавязвае прынцып аднадушнасці ўсіх удзельнікаў. Для кожнай фармуліроўкі трэба знайсці супольнае акрэсленне: дастаткова дакладнае, каб магло быць прынята ўсімі, але не заабшырнае, бо тады можна па-рознаму яго каменціраваць. Усё гэта, зразумела, вымагае часу, цярплівасці, а перш за ўсё добрай волі.

Тэматыка нарады ахоплівае тры групы спраў: 1 — справы бяспекі, 2 — справы эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, 3 — гуманныя справы. У галіне бяспекі найважнейшай справай з'яўляецца прынцып непарушнасці граніц. Калі наш кантынент мае быць зонай трывалага міру, тады ўсе павінны абавязацца да непарушнасці граніц і не ўносіць тэрытарыяльных прэтэнзій. У эканамічнай галіне дыскусія вядзецца ў асноўным вакол т.зв. клаўзулы найвышэйшай прывілейнасці, што ў практыцы з'яўляецца прынцыпам раўнапраўнасці. Адсутнасць гэтай клаўзулы абазначае дыскрымінацыю, не дазваляе супрацоўнічаць. У гуманнай галіне асноўнай справай з'яўляецца пашырэнне кантактаў паміж людзьмі і распаўсюджванне інфармацыі.

### НЕКАРЫСНЫЯ З'ЯВЫ

У заходніх краінах безупынна ўзрастаюць цэны на тавары першай патрэбы, даражэюць паслугі, расце інфляцыя, а гэта адмоўна адбіваецца на ўзроўні жыцця рабочых. Здарэнні, якія мелі месца ў першых днях новага года, сведчаць, што інфляцыйныя з'явы, павялічаныя нафтавым крызісам, будуць мець працяглы характар.

Безупынны рост цэн на тавары першай патрэбы даецца ў знакі перш за ўсё амерыканскім грамадзянам. Асабліва хутка даражэюць харчы. Амерыканскі інстытут мясной прамысловасці паінфармаваў, што толькі на працягу апошніх тыдняў оптавыя цэны мяса ўзраслі [illegible] працэнты. Гэта вядзе ў прамой лініі да росту розьнічных цэн.

Амерыканскіх грамадзян чакае таксама павелічэнне і так высокіх выдаткаў, [illegible] з лячэннем. Савет па справах коштаў утрымання апублікаваў „астатковыя“ прынцыпы кантролю цэн у гэтай галіне. Гаворыцца тут, што клінікі і прыватныя лекары маюць права павысіць аплаты на 4—7,5 прац.

Кошты ўтрымання ў Ізраілі ў 1973 годзе павялічыліся на 26,4 прац., цэны вопраткі на 17 прац., а харчоў на 28 прац. Эксперты агульнага рынка лічаць, што цэны тавараў сельскагаспадарчага паходжання на працягу 1974—1975 гадоў у дзяржавах Агульнага рынка павялічацца ў сярэднім на 7 прац.

### УЖО 100.000

Нядаўна аўтамабільны завод Камунард у Запарожжы выпусціў 100-тысячны малалітражны аўтамабіль „Запарожац“. Цяпер „Запарожцы“ маюць маторы з 40 і 50 конскімі сіламі, што дае магчымасць развіваць хуткасць да 125 кіламетраў у гадзіну. (ак)

## БССР

### НОВАБУДОЎЛІ 1974 ГОДА

Сёлета ўступяць у строй на тэрыторыі БССР наступныя заводы і прадпрыемствы: Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній, Пінскі завод уніфікаваных вузлоў, Лунінецкі завод электрарухавікоў і Клецкі кансервавы камбінат. Затым будзе завершана будаўніцтва першай чаргі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, другой чаргі Аршанскага завода нармалізаванага інструменту, а таксама жывёлагадоўчых комплексаў у саўгасе-камбінаце „Мір“ Баранавіцкага раёна, саўгаса „Лошніца“ Барысаўскага раёна. Адначасова расшыраюцца вытворчыя магутнасці на Гомельскім хімічным заводзе, Полацкім нафтаперапрацоўчым камбінаце, Віцебскім заводзе даламітавай мукі, Магілёўскім камбінаце шаўковых тканін і Гродзенскім прадзільна-ніткачным камбінаце. Магутныя халадзільнікі атрымаюць Мінскі мясаперапрацоўчы завод і Ваўкавыскі мясакамбінат. Навейшым, сучасным абсталяваннем будуць забяспечаны ільнозаводы ў Карэлічах і Валожыне. Апрача гэтага намечана здаць шмат аб'ектаў сацыяльнага прызначэння.

Гэты далёка яшчэ няпоўны пералік самых важных новабудоўляў 1974 года паказвае, што чацвёрты год дзевятай пяцігодкі будзе для Савецкай Беларусі годам далейшых глыбокіх і шматбаковых пераўтварэнняў на шляху да камунізму.

### ПЛЕНУМ ЦК ЛКСМ БЕЛАРУСІ

Як падае агенцтва БЕЛТА, у Мінску 16 студзеня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі. Разгледжана пытанне аб удзеле камсамольскай арганізацыі Беларусі і Камітэта маладзёжных арганізацый БССР у міжнароднай дзейнасці ВЛКСМ. З інфармацыяй выступіў член бюро ЦК ЛКСМ Беларусі, старшыня Камітэта маладзёжных арганізацый БССР Уладзімір Ягораў. Пленум разгледзеў таксама некаторыя пытанні арганізацыйнага парадку.

### ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ВАРШАВЕ

З нагоды 29-ай гадавіны вызвалення сталіцы нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў газета „Звязда“ змясціла артыкул варшаўскага карэспандэнта ТАСС В. Міхальчука аб Варшаве. Прыпамінае ён, што ў вайну загінула амаль 800 тысяч варшавян, што Гітлер загадаў сцерці гэты геройскі горад з твару зямлі, што ў баях за яго вызваленне загінула звыш 30 тысяч савецкіх воінаў, якія цяпер пакояцца на супольным добраўпарадкаваным могільніку-маўзалеі, што самым высокім будынкам у сталіцы ПНР з'яўляецца дагэтуль Палац культуры і навукі, пабудаваны ў 1953-1955 гадах як дар Савецкага Саюза.

### ПРАДАЎШЧЫЦА КНІЖАК

Софія Карлава працуе старшым прадаўцом вядомай у Мінску кнігарні „Дружба“. За добрыя вынікі ў працы адзначана яна ордэнам „Знак Пашаны“. Софія Карлава, між іншым, прапануе наведвальнікам кнігарні польскія кніжкі, якія тут карыстаюцца вялікай папулярнасцю. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### СМЕЛАЯ І ВЯЛІКАЯ ПРАГРАМА

Сейм прыняў урадавую праграму паляпшэння матэрыяльнай сітуацыі людзей працы. Прадставіў яе прэм'ер Пётр Ярашэвіч. Гэта, як сказаў ён, праграма смелая і вялікая. Гэта праграма чарговага павышэння зарплат у гадах 1974-75. А вось галоўныя пункты праграмы:

Дзякуючы большаму нацыянальнаму даходу за тры гады гэтай пяцігодкі павышана зарплата для 6,4 мільёна асоб (пяцігадовы план прадбачваў павысіць яе ў гадах 1971-75 толькі 4,6 мільёнам асоб). Гэта — настаўнікі, служба здароўя, рабочыя спажывецкай, лёгкай, шклярскай і паліграфічнай прамысловасці; рабочыя гутаў, энергетыкі, газавай прамысловасці, будаўніцтва, керамікі, чыгуначнікі, працаўнікі марскога флоту і сувязі, адміністрацыі, пракуратуры і судоў. Узраслі даходы вёскі.

Але 4,5 млн. працаўнікоў дзяржаўнай гаспадаркі чакае яшчэ павышэння зарплаты. Цэнтральны Камітэт партыі зацвердзіў урадавую праграму, якая прадбачыць падвышкі ўсім астатнім працаўнікам на працягу двух наступаючых год 5-годкі. Такім чынам, усе людзі працы нашай краіны — 11 млн. асоб атрымаюць падвышкі зарплаты за адну толькі 5-годку. Каб рэалізаваць гэту праграму, урад павінен выдаць кожны год 20 млд. злотых. А ўлічваючы папярэднія падвышкі, урад за кожны год пяцігодкі выдасць на павышэнне зарплаты 44 мільярды злотых.

Вышэйшыя зарплаты атрымаюць: ад 1 лютага — шахцёры ўсёй горнай прамысловасці; ад 1 красавіка — працаўнікі наземнага і авіяцыйнага транспарту; ад 1 чэрвеня — працаўнікі ўнутранага гандлю і гастраноміі; ад 1 красавіка — трактарысты, камбайнёры, працаўнікі варштатаў у сельгасгуртках; ад 1 ліпеня — працаўнікі сельскагаспадарчых арганізацый: механізатары, ветэрынары, інспектары, геадэты; ад 1 ліпеня — працаўнікі цэлюлознай і запалчанай прамысловасці, будаўнічай керамікі, замежнага гандлю, марскіх партоў, рыбаловы; ад 1 лютага — урбаністы; ад 1 верасня — працаўнікі культуры; ад 1 кастрычніка — геолагі, працаўнікі водаправодаў; ад 1 студзеня 1975 — працаўнікі драўніннай прамысловасці; ад 1 жніўня 1975 года — усе іншыя працаўнікі.

Ад 1 жніўня г.г. павысіцца пенсія па старасці і па хваробе, пенсія для ваенных інвалідаў і ветэранаў, а таксама павысяцца найменшыя сямейныя даходы на асобу — з 1.000 зл. на 1.400 зл.; павысяцца сямейныя дадаткі на дзяцей — па 150 зл. на трэцяе і кожнае наступнае.

Для сельскай гаспадаркі: больш будаўнічых матэрыялаў, трактараў і іншых машын, больш кармоў.

Ад 21 студзеня павышаюцца цэны скупкі валавіны (на 2,6 зл. за кг), цукровых буракоў (на 10 зл. за цэнтнер), рапаку (на 150 зл. за цэнтнер). Будзе павышана пенсія для гаспадароў, якія па старасці не могуць апрацоўваць зямлі і аддадуць яе дзяржаве. Пенсіі за гаспадарку будуць складаць 1 500 — 2 500 зл. Прасцейшым будзе абарот зямлёю ўвогуле. Гаспадары, якія захочуць павялічыць свае гаспадаркі, зробяць гэта без перашкод. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ЗГП

20 студзеня ў Беластоку адбылася VI справаздачна-выбарная канферэнцыя Беластоцкай харугві ЗГП. З'ехалася каля 160 дэлегатаў з 20 гуфцаў, якія прадстаўлялі на канферэнцыі 110 тысяч гарцэраў, зухаў і інструктараў. Госцьмі гарцэраў былі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, беластоцкі ваявода З. Спрыха, начальнік ЗГП С. Багдановіч і іншыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы. З дакладам выступіў камендант Беластоцкай харугві С. Кэнска. Створаная ў чэрвені 1973 года Федэрацыя сацыялістычных саюзаў моладзі даручыла выхаванне дзяцей і школьнай моладзі адной арганізацыі — Саюзу польскага гарцэрства. У сувязі з гэтым колькасць гарцэраў у сярэдніх школах ужо за гэты кароткі час падвоілася. А галоўная задача арганізацыі — добрае выхаванне моладзі і яе актывізацыя ў здабыванні ведаў. Напрамак дзейнасці ваяводскай арганізацыі — гарцэрская служба Беласточчыне. Аб гэтым гаворыць прынятая на канферэнцыі пастанова. У гонар канферэнцыі гарцэры сярэдніх школ, так званыя дружыны Гарцэрскай службы сацыялістычнай Польшчы, працавалі грамадскім чынам на карысць свайго асяроддзя.

### НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

У Аўгустове па ініцыятыве Ваяводскага ўпраўлення адбылася двухдзённая навуковая сесія на тэму аховы прыроды на Беласточчыне. У сесіі ўдзельнічалі беластоцкі ваявода З. Спрыха, віцэ-міністр тэрэновай гаспадаркі і аховы асяроддзя Л. Ахоцкі, прадстаўнікі ваяводскіх арганізацый, палітычных стронніцтваў, вучоныя з розных навуковых цэнтраў краіны, спецыялісты па справах рацыянальнага выкарыстоўвання прыроднага багацця. На сесіі прадстаўлена было 12 дакладаў. У дыскусіі абмяркоўваліся справы аховы водных запасаў у шырокім разуменні, аховы глеб і тарфянікаў, аховы раслінасці і жывёльнага свету, аховы турыстычных раёнаў. Навука ў наш час павінна дапамагчы лепш гаспадарыць існуючымі прыроднымі багаццямі.

### КАМП'ЮТЭР У ГМІНЕ

Начальнік гміны ў Харошчы В. Мялешка падпісаў уступны дагавор з дырэктарам беластоцкай пляцоўкі вылічальнай электроннай тэхнікі В. Шылам аб абсталяванні ў гміне міні-камп'ютэра „Мэра 302“. Гэта малая электронная машына павінна ў гміне дапамагаць у вылічэннях, даваць вобразы аб агульнай сітуацыі ў жывёлагадоўлі, кантрактацыі, угнаеннях і інш. Гэта значна дапаможа лепш планаваць, кіраваць і гаспадарыць. Першая вылічальная электронная машына трапіць у гміну ў апошнім квартале гэтага года.

### НАЙЛЕПШЫЯ

Тэхнікум жывёлагадоўлі ў Алецку заняў першае месца ў краіне па вядзенню школьных сельскіх гаспадарак. Такое дасягненне прыпала беластоцкай школе ўпершыню. Да гэтага часу найлепшымі школьнымі гаспадаркамі лічыліся гаспадаркі вроцлаўскай, быдгаскай і гданьскай школ. Тэхнікум атрымаў пераходны сцяг міністра сельскай гаспадаркі і ГП прафсаюза працаўнікоў сельскай гаспадаркі. (яч)




**Niedziela — 27.I.**

7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 „Teleranek”. 10.20 „W Cieszynie na rynku” („Z ludowej szkatuły”). 10.50 „Ridolini” — film archiw. („W starym kinie”). 11.30 Telewizyjny mecz w akrobatyce sportowej Polska — Związek Radziecki — Bułgaria. 13.00 Dziennik. 13.15 Koncert symfoniczny WOSPR i TV pod dyr. Emina Chaczaturiana (ZSRR). 14.05 Radar. 14.15 „Na chłopski rozum”. 14.45 Dla dzieci: „Aby dzieci wiedziały” — cz. II. Widowisko Teatru Lalek „Drak” z Hradec Kralove. 15.25 PKF. 15.35 „Wiem wszystko” — teleturniej. 16.20 Losowanie Toto-Lotka. 16.35 Studio Muzyki Rozrywkowej. 17.10 Estrada poetycka — Jan Kochanowski „Pieśni” (Poezja polska). 17.25 Tele-Echo. 18.10 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Czarne chmury” — film TVP — odc. VI. 21.10 Program rozrywkowy. 22.10 Informacyjny Magazyn Sportowy. 22.40 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek — 28.I.**

12.45 TV Technikum Rolnicze — Uczymy się w TV Technikum Rolniczym. 13.25 TV Technikum Rolnicze pomocą w samokształceniu. 16.10 Program dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.30 Echo stadionu. 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.05 Spacerkiem po kinach. 18.30 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: W. Szekspir „Hamlet”.

**Wtorek — 29.I.**

10.00 „Wymarłe miasto” — film ameryk. („Strzały w Dodge City”). 10.50 „Korezula” — film dok. jugosł. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski. Zbigniew Skowroński „Dekret”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Wędrówki z moim latawcem”. 17.05 „Rodzina Durtolów” — film franc. — odc. 19. 17.35 Dla młodzieży: „Egzamin” — Klub TV. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Interstudio. 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Wymarłe miasto” — film ameryk. („Strzały w Dodge City”). 21.05 Bez togi. 21.45 Gra Stowarzyszenie Popierania Prawdziwej Twórczości „Chałturnik”. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Środa — 30.I.**

9.40 „Trójkąt” — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Historia „Romuald Traugutt”. 11.35 „Wielka depresja” — film dok. NRD. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT — Pedagogika. „Kształcenie dla rozwoju”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program dla dzieci. 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 Informacje — Towary — Propozycje. 17.35 „Lekcja” — reportaż z Biskupina. 18.00 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.30 „Łuk tęczy” — film TV Czechosłowackiej — odc. I („Śmierć na szczycie”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Kino Interesujących Filmów: „Tristana” — film fab. franc.-włosko-hiszp. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 Śpiewa Tony Craig. 22.40 Dziennik. 22.55 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Czwartek — 31.I.**

9.35 „Druga prawda” — film fab. franc. 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski. „Telewizja”. 13.30 TV Kurs informatyki: „Sterowanie procesami technologicznymi”. 14.10 Matematyka w szkole: „Pogłębianie pojęcia iloczynu liczb naturalnych” cz. II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 PKF. 17.55 Kwadrans akademicki. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Gramy o telewizor. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Druga prawda” — film fab. franc. 21.45 Wiadomości sportowe. 21.55 „Hallo! Kto mówi?” — program rozrywkowy. 22.15 Dziennik. 22.30 Informacje — Towary — Propozycje. 22.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Piątek — 1.II.**

10.05 „Czarne chmury” — film TVP — odc. VII. 10.05 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie. „Nasze miejsce w szkole”. 11.35 „Panonia” — film dok. węg. 12.00 Dla szkół: (kl. III) „W co się bawić”. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy: Matematyka. 15.55 NURT — „Narodziny filozofii i jej powołanie”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.25 Turystyka i wypoczynek. 17.50 Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.05 Dla młodzieży: „Dwie szkoły” — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Księżyc” („Zdarzenia, zmyślenia”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „P — Romek show — czyli zagubiony”. 21.00 Panorama. 21.40 Teatr TV: A. Ostrowski „Talenty i wielbiciele”. 23.10 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Sobota — 2.II.**

10.00 „Dyrektor” — film fab. radz. 14.05 TV Technikum Rolnicze — Wskazówki metodyczne — lekcja 1. 14.40 TV Technikum Rolnicze — Język polski — lekcja 1. 15.10 Program dnia. 15.15 Program I proponuje. 15.30 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.45 Telereklama. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Dzielny Robin Hood” — film radz. 16.25 Dla młodzieży: Scena Faktu — „Żegnaj domku”. 17.10 Nie tylko dla pań. 17.35 „Anna” — film ang. — odc. I. („Rodzina Straussów”). 18.45 Godzina Orfeusza. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Dyrektor” — film fab. radz. 22.15 Dziennik. 22.35 Wiadomości sportowe. 22.45 „Z Emilią w Albenir” — bułgarski program rozrywkowy. 23.20 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie — jazda dowolna kobiet.

 

## АДГАЛОСКІ

### „КВАРТАЛЬНІК ГІСТАРЫЧНЫ“ АБ „ГІСТОРЫІ БССР“

У чацвёртым нумары „Квартальніка гістарычнага“ ад 1973 года Марцэлі Косман змясціў рэцэнзію на першы том „Гісторыі Беларускай ССР“ у пяці тамах, у якім ахоплены падзеі да 1861 года.

Ці сапраўды поўна паказана гісторыя Беларусі да 1861 года? — ставіць пытанне Косман.

Звяртае ён увагу на тое, што аўтары „Гісторыі Беларускай ССР“ зрабілі асаблівы акцэнт на IX, палову XIV, пачатак XVI, палову XVII і другую палову XVIII стагоддзяў. Не ўлічылі яны такіх зваротных момантаў, як уваход беларускіх земляў у склад Вялікага Літоўскага княства, што пачалося каля паловы XIII ст., а таксама ўтварэнне ў 1569 годзе Рэчыпаспалітай, што мела большае значэнне, чымсьці, напрыклад, акцэнтаваны пералом XV і XVI ст. ст. Падокшыну і Пахілевічу, аўтарам раздзелаў ад рэфармацыі на Беларусі і яе сельскай гаспадарцы, Косман робіць шэраг закідаў у недакладнасцях наконт умоў каранацыі Ягайлы, бітвы пад Грунвальдам, разумення тагачаснага нацыянальна-вызваленчага руху, рэвізіі правоў, якую праводзіла каралева Бона, паходжання некаторых рэфарматараў і інш.

Косман піша:

„На заканчэнне паўтараю заўвагу наконт дыспрапорцыі паміж паказам грамадска-эканамічных адносін (правільна паказаны таксама культурныя справы) і палітычных. Даследаванні ў гэтай апошняй галіне, хаця ў мінскім цэнтры хапае спецыялістаў, пакінута — так здаецца — апошнім часам у пэўным занядбанні“.

Рэцэнзент выказаў спадзяванні, што вынікі доследаў, якія пачаліся ў сувязі з рыхтуемай у Мінску манаграфіяй „Беларусь, як састаўная частка Вялікага Літоўскага княства“, будуць улічаны ў другім выданні першага тома „Гісторыі Беларускай ССР“, які, паявіўшыся ў пяцітысячным тыражы, хутка разыйшоўся.

(ся)

## КОНКУРС САВЕЦКАЙ ПЕСНІ

На ўсёй Беласточчыне ўжо ад месяца лістапада разгарнулася падрыхтоўка да XIII Агульнапольскага конкурса савецкай песні. Яго ўрачысты характар вызначаюць святкаванні юбілею 30-годдзя Народнай Польшчы і 30-ай гадавіны дзейнасці Таварыства польска-савецкай дружбы.

Конкурс праводзіцца асобна для вучняў пачатковых школ і асобна для ўдзельнікаў ва ўзросце звыш 16 год. Ваяводскія агляды адбудуцца: для школьнікаў — 24 сакавіка і для ўдзельнікаў ва ўзросце звыш 16 год — 30 сакавіка г.г. Арганізатары падрыхтавалі для пераможцаў у абодвух конкурсах каштоўныя ўзнагароды. **Спецыяльныя ўзнагароды за найлепшае выкананне беларускай песні чакаюць ад „Зоркі“ — у катэгорыі школьнікаў, і ад „Нівы“ — у катэгорыі ва ўзросце звыш 16 год.** 31 сакавіка адбудзецца ўрачысты канцэрт пераможцаў у тэатры імя А. Вянгеркі, а таксама будуць наладжаны канцэрты на беластоцкіх прадпрыемствах і ўстановах.

(мг)

## Этнаграфічнае акенца

*Вёска Баброўнікі Беластоцкага павету.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

### ДА 50-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ КСМЗБ

## ГЕРАІЧНАЯ МАЛАДОСЦЬ

У іх рады ўступалі лепшыя з найлепшых. Затаіўшы дыханне, чыталі нелегальную рэвалюцыйную літаратуру, а на законспіраваных сходах з палаючымі вачыма слухалі дакладчыкаў, што ў глыбокай таямніцы прыбывалі аднекуль і, знаёмячыся, не называлі свайго прозвішча, падавалі толькі псеўданім. Спазнаную тэорыю класавай барацьбы разумелі вельмі канкрэтна, а яе практыку назіралі кожны дзень — ворагі працоўнага люду былі побач: фабрыканты, памешчыкі, купцы, паліцыя і ўвесь апарат санацыйнага ўціску. Змагаліся з ім самаахвярна, але прадумана і сістэматычна. Санацыя ж распраўлялася з імі жорстка і крывава: запаўняла імі турмы, катавала і хацела знішчыць іх 5, 8, 12 гадамі турэмнага заключэння. А ім было ўсяго 15, 17, 20 год жыцця і яны не паддаліся.

Так. Гэта былі члены Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі.

Першыя камуністычныя гурткі моладзі ў Заходняй Беларусі паўсталі ўжо ў 1919—1920 гадах у Валкавыску, Вілейцы, Маладзечне, Навагрудку, Нясвіжы, Пінску, Баранавічах, Пружанах, Слоніме. Іх прадстаўнікі ўдзельнічалі ў I з'ездзе Камуністычнага саюза моладзі Беларусі, які праходзіў у Мінску 24—27 верасня 1920 года. Калі ж Заходняя Беларусь апынулася ў складзе Польшчы, яны вымушаны былі перайсці да нелегальнага, падпольнага дзеяння, а пры дапамозе камуністаў колькасць гэтых арганізацый павялічылася — паўсталі новыя ў Ашмянах, Брэсце, Гродне, Індуры, Лідзе, Ружанах, Пружанах, а таксама на Беласточчыне: у Беластоку, Бельску Падляшскім, Гайнаўцы, Крынках, Сувалках. Калі ў студзені 1924 года ў Вільні адбылася першая камсамольская канферэнцыя, на якой быў утвораны Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, у ёй удзельнічалі дэлегаты ад 120 камсамольцаў на волі і звыш 200, што знаходзіліся ў турмах. Канферэнцыя рашыла, што ўтвораны КСМЗБ — гэта секцыя Камуністычнага саюза моладзі Польшчы, устанавіла сетку акруговых, гарадскіх і раённых камітэтаў КСМЗБ, выбрала Цэнтральны камітэт з I сакратаром — І. Унгер, апрацавала напрамкі дзейнасці арганізацыі.

Нягледзячы на праследаванні, колькасць гурткоў і лік членаў КСМЗБ хутка павялічваўся. Ужо ў часе II канферэнцыі, што адбылася ў чэрвені 1925 года ў Вільні, арганізацыя складалася з 1200 членаў на волі і каля 1500 у турмах. Канферэнцыя выбрала I сакратаром КСМЗБ Веру Харужую.

Камсамольцы былі вернымі таварышамі і надзейнымі памочнікамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Камсамольцы Заходняй Беларусі былі ў першых радах бастуючых рабочых Вільні, Брэста і Гродна ў 1932 г., у барацьбе тэкстыльшчыкаў Беластоцкага прамысловага раёна ў 1933 г., у славутай забастоўцы лесарубаў і возчыкаў Белавежскай пушчы ў 1932—1934 гадах і іншых класавых бітвах працоўных Заходняй Беларусі.

КСМЗБ прымаў актыўны ўдзел у правядзенні палітычных выступленняў рабочых і сялян у дні 1 Мая, гадавін Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі, кампаніі „3 Л“ (ва ўшанаванне гадавін смерці У. І. Леніна, К. Лібкнехта і Р. Люксембург). Асабліва актыўна святкаваў Міжнародны юнацкі дзень.

Камсамольцы арганізавалі палітычныя дэманстрацыі моладзі, мітынгі, масоўкі, рэвалюцыйныя вечарынкі. КСМЗБ выдаваў і распаўсюджваў лістоўкі, вывешваў чырвоныя сцягі і рэвалюцыйныя лозунгі, вёў выясняльную работу сярод салдат і навабранцаў. Яго члены працавалі ў БСР Грамадзе, Таварыстве беларускай школы і іншых прагрэсіўных арганізацыях.

У неверагодна цяжкіх падпольных умовах КСМЗБ выдаваў свае газеты і часопісы, сярод іх: „Малады камуніст“, „Малады змагар“, „Пад сцягам камсамола“. „Маладая гвардыя“, беластоцкі гарадскі камітэт КСМЗБ — „Białostocki KZM-owiec“. У Вільні КСМЗБ стварыў у 1933 г. студэнцкую арганізацыю „Фронт“ і „Функ“, што выдавала прагрэсіўныя легальныя часопісы „Na przełaj“, а пасля яго закрыцця папулярны двухтыднёвік „Po prostu“.

У змаганнях КСМЗБ сфармаваліся таленты такіх выдатных паэтаў-камсамольцаў як Максім Танк і Валянцін Таўлай.

КСМЗБ меў сваіх выдатных дзеячоў-правадыроў — В. З. Харужую, А. А. Альшэўскага, М. М. Дворнікава (С. Тамашэвіча), І. Я. Дабрыяна, С. В. Прытыцкага, Я. І. Скурко (М. Танка), С. Р. Анісава і многа іншых.

І хоць у 1938 г. КСМЗБ спыніў сваё існаванне, але яго члены і ў далейшым працягвалі сваю дзейнасць, а калі фашысты запаланілі нашыя землі, яны былі арганізатарамі партызанскіх атрадаў і ў іх змагаліся з гітлераўскімі акупантамі. Пасля заканчэння вайны былыя камсамольцы Заходняй Беларусі ў Савецкім Саюзе і ў Народнай Польшчы актыўна ўключыліся ва ўмацаванне народнай улады і ў адбудову нашых краін з ваенных знішчэнняў.

Прыгожую, гераічную карту ўпісаў у гісторыю беларускага народа Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі!

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 1).

## БЕЛАВЕЖСКІЯ

сцэне ў Беластоку, бачым, што кіраўнік і танцоры абсалютна падабаліся. Кожны танец — гэта на сцэне маладосць, тэмперамент, і што тут гаварыць — прыгажосць.

Пра рэпертуар некаторыя беластоцкія чытачы выражаліся нешта скептычна. Ім не спадабалася, што ў рэпертуары амаль адсутнічала мясцовая рэгіянальная песня. Усё ж такі, гаварылі, гэта рэгіянальны беларускі калектыў і павінен распаўсюджваць хараство нашай, тутэйшай песні. Хтосьці да нас прыедзе і захоча пазнаёміцца, як тут жывуць беларусы, якія ў іх песні, а мы не вельмі маем што паказаць.

Зразумела, гэтыя заўвагі датычыліся не толькі гэтага працавітага калектыву, але былі рэфлексіяй наогул над нашым аматарскім рухам.

Гэта праўда, што няма ў нас рэгіянальных харавых калектываў, але не віна тут калектываў. Мы ж надалей не маем апрацаванага беларускага беластоцкага фальклору. Рэгіянальным рэпертуарам і яго распрацоўкай хтосьці павінен заняцца. Мастацкі кіраўнік белавежскага калектыву Аляксандр Лукашук гаворыць, што гэта цяпер адна з асноўных спраў.

Але ў нашым мастацкім руху трэба бачыць і другое. Людзі сюды прыходзяць не толькі для таго, каб спяваць тое, што камусьці падабаецца. Псіхалогія аматара такая, што ён прыходзіць у хор, каб спяваць тыя песні, якія яму падабаюцца. І гэта добра, гэта ж іменна не „кансумпцыйны“ падыход да культуры, але актыўны, творчы. Дык чаму ж маюць не спяваць песень іх маладосці, песень, якія запісаны на пласцінках, сучасных рускіх, беларускіх, украінскіх ды польскіх песень? Тут, на вярху, трэба было б пры дапамозе спецыялістаў падрыхтаваць і распрацаваць рэпертуар рэгіянальных песень, убораў ці танцаў, каб калектывы маглі іх мець у рэпертуары.

**А. Карпюк**
фота аўтара

*З увагай слухаюць „Белавежу“ ў вялікай зале на Варшаўскай.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ Тэатральны калектыў гуртка БГКТ у Катлах пад мастацкім кіраўніцтвам вучаніцы IV класа беларускага ліцэя ў Бельску Таісы Наумчык падрыхтаваў п'есу „Міхалка“ і 8 студзеня выступіў з ёю у сваёй вёсцы. Калектыў гэты прыме ўдзел у конкурсе тэатральных калектываў БГКТ.

■ 9 студзеня ў Мілейчыцах адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення сяміяціцкага аддзела, на якім галоўнай справай была абмяркоўка і прыняццё справаздачы аддзела аб дзейнасці ў 1973 г. А вось некаторыя даныя. У мінулым годзе сямяціцкай арганізацыяй БГКТ было арганізавана 26 акадэмій, 17 вечарын, 18 гутарак, паказаны 44 савецкія фільмы і зроблена 6 дакладаў. Члены БГКТ прынялі актыўны ўдзел у агульнапольскай партыйнай нядзелі грамадскіх чыноў. Вясною мінулага года гурткі БГКТ у Рагачах і Мікулічах грамадскім чынам пасадзілі 500 дэкаратыўных дрэўцаў на дарогах. 19 бэгэкатоўцаў выбраны раднымі, 22 працуюць у камісіях рад нарадовых і 17 — у прысудных гмінных калегіях. У 1973 годзе існавала 12 беларускіх мастацкіх калектываў.

Прэзідыум на гэтым пасяджэнні абмеркаваў і зацвердзіў план працы аддзела на першае паўгоддзе 1974 года. Старшыня ГП Мікалай Самоцік высока ацаніў дзейнасць аддзела і яго штатнага працаўніка Міхася Вішанкі.

■ Прэзідыум праўлення бельскага аддзела 9 студзеня займаўся арганізацыйнымі справамі, звязанымі з песенным конкурсам БГКТ.

■ 10 студзеня на сваім пасяджэнні прэзідыум праўлення беластоцкага павятовага аддзела праслухаў інфармацыю аб падрыхтоўцы аддзела да песеннага конкурсу БГКТ, зацвердзіў справаздачу аб дзейнасці аддзела ў 1973 годзе і план працы прэзідыума і аддзела на першае паўгоддзе 1974 года, прыняў у рады БГКТ 59 новых членаў і абмеркаваў падрыхтоўку да святкавання XX гадавіны існавання гарадоцкага харавога калектыву, які будзе адзначаць свой юбілей 9 сакавіка.

■ 12 студзеня ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве адбыўся традыцыйны навагодні баль, арганізаваны варшаўскім аддзелам БГКТ.

■ Тэатральны калектыў у Меляшках (Беластоцкі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніцы Зінаіды Літвін 12 студзеня выступіў у сваёй вёсцы з фальклорнай пастаноўкай мясцовай вечарынкі і п'есай В. Галубка „Суд“.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку супольна з радай клуба 13 студзеня ў памяшканні ГП таксама арганізаваў традыцыйную навагоднюю вечарыну для сваіх членаў і сімпатыкаў БГКТ.

(мх)

 

(Працяг са стар. 1)




### НАЙЛЕПШЫЯ

Найбольшы плён сабраў і прынёс на старонкі „Нівы“ **Мікалай Панфілюк** — родам з Дубіч Царкоўных, пражывае там жа. Працуе пісьманосцам. Пра справы сваёй вёскі пісаў многа. М. Панфілюк піша не толькі пра добрыя і дрэнныя з'явы сваёй гміны, але нават суседніх — Кляшчэлеўскай і Арлянскай.

М. Панфілюк належыць да найстарэйшых і найбольш верных ніваўскіх карэспандэнтаў. Піша ад першага года існавання „Нівы“.

Па сістэматычнасці ў пісанні ён займае першае месца. Няма тыдня, каб ён не прыслаў хоць раз, а часам і два разы, адну ці больш інфармацый.

М. Панфілюк — уражлівы летапісец, складае кнігу жыцця, у якой замыкаюцца людзі і падзеі пэўнай зямлі ў Гайнаўскім павеце.

Родная вёска нашага карэспандэнта года была найчасцей апісваемай вёскай. У паасобных выпадках пра Дубічы Царкоўныя пісалі іншыя карэспандэнты. Такім чынам Дубічы Царкоўныя сталі таксама найбольш актыўнай вёскай года.

Як карэспандэнту года, так і ўсёй вёсцы жадаем далейшых поспехаў і яшчэ вышэйшага лёту ў новым годзе. Да наступнай сустрэчы!

*

М. Панфілюк — найбольш актыўны карэспандэнт года атрымлівае першую ўзнагароду „Нівы“.

Узнагароды атрымліваюць таксама другі і трэці па актыўнасці карэспандэнты „Нівы“ — А. С. і Наглядальнік.

А вось пару слоў пра другога, трэцяга і іншых перадавых карэспандэнтаў.

А. С. — яму належыць апісанне Шудзялаўскай гміны ў Сакольскім павеце. Карэспандэнт з вострым грамадскім падыходам да розных з'яў штодзённага жыцця.

Наглядальнік — верна рэгіструе жыццё вёсак Грэдалі, Грыгараўцы, Малінікі, Орля, Тапчыкалы, Кошкі — усе ў Бельскім павеце.

Ларс — апісвае гміну Гарадок у Беластоцкім павеце.

Нестару Перавою горад Бельск удзячны сваімі частымі інфармацыямі на старонках „Нівы“.

Віктар Бура — нязменны шукальнік вясковых гурткоў БГКТ, пра якія піша з сэрцам.

Мікола Краўчук стаіць за вёску Патока і бліжэйшую ваколіцу, а Міхась Матвеюк за Цялушкі.

К. Т. — гэта цікавыя і крытычныя інфармацыі пра Белавежу, а Н. Андрэюк любіць пісаць пра Плёскі.

Мікалай Гогель ловіць усё, што дзеецца ў працы поштаў, цёпла піша пра пісьманосцаў.

Васіль Асеннік карэспандэнтам „Нівы“ стаў недзе ў сярэдзіне мінулага года. Выстартаваў многімі цікавымі інфармацыямі, заваяваў ужо права аднаго з найбольш плённых карэспандэнтаў, найбольш піша пра Спічкі.

Павел Гутнік — таксама малады і плённы карэспандэнт з ваколіц Азяблы-Міхалова. Умее бачыць і апісаць усё, што цікавае — добрае і дрэннае.

Весткамі з жыцця Бельскага беларускага ліцэя „Ніва“ ўдзячна найперш Яўгену Семянюку, які сваімі інфармацыямі запачаткаваў у „Ніве“ свайго роду хроніку з жыцця любімай школы.

*

Прадставілі мы тут карэспандэнтаў, якія прыслалі найбольшую колькасць інфармацый. Сардэчнае дзякуй кіруем таксама да ўсіх 68 нашых карэспандэнтаў, што пісалі, не забывалі. У новым годзе чакаем далейшага плённага супрацоўніцтва з вамі.

Пачатак на стар. 1

## Інжынеры і магістры

Філіял Варшаўскага універсітэта таксама будзе разбудаваны. Некалькі новых будынкаў, інтэрнат, гасцініца для асістэнтаў, школа практыкаванняў, аб'екты для фізкультурнага выхавання, бібліятэка...

— З таго, што ты кажаш, вынікае, што Беласток будзе даволі вялікім акадэмічным цэнтрам.

— Несумненна. Пішуць, што ў 1980 годзе ў беластоцкіх вышэйшых навучальных установах будзе вучыцца амаль 10 тысяч студэнтаў.

— А што яны будуць тут рабіць пасля навукі?

— Не турбуйся. З падлікаў спецыялістаў вынікае, што ўжо праз шэсць гадоў Беласточчына будзе патрабаваць не менш 11 тысяч выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў. Трэба памятаць, што ў гадах 1976—1980 у Беластоцкім ваяводстве будуць пабудаваны:

—фабрыка тэлевізараў у Беластоку і яе філіял у Замброве,

— фабрыка сельскагаспадарчых прылад і машын,

— прадпрыемства па вытворчасці запасных частак для будаўнічых машын,

— прадпрыемства па вытворчасці частак для дакладных вымяральных прыбораў,

— прадпрыемства па вытворчасці электраразмеркавальных установак,

— фабрыка машын і абсталявання для хімічнай прамысловасці,

— прадпрыемства па вытворчасці лёгкіх стальных канструкцый для патрэб сельскагаспадарчага будаўніцтва.

Так пішуць у праграме развіцця Беласточчыны да 1980 года. А гэта ж не ўсё. Бо ў іншым месцы гэтай апрацоўкі знаходзім яшчэ, што ў гадах 1976—1980 неабходна таксама на Беласточчыне пабудаваць:

— новы тартак у раёне горада Сувалкі,

— фабрыку стружкавых пліт,

— дзве вялікія мэблевыя фабрыкі,

— прадпрыемства па вытворчасці будаўнічай сталяркі,

— прадпрыемства па вытворчасці драўляных сегментаў для будовы аднасямейных жылых дамоў і дачных домікаў,

— фабрыку фанеры і дыкты замест ліквідаванага прадпрыемства гэтага тыпу ў Элку.

Так што, як бачыш, працы нашым дзецям не забракне. Хай толькі яны цяпер вучацца на гэтых інжынераў і магістраў.

**М. Нурэцкі**



*За вагаю пільна сочаць вочы Тацяны Чэпель.*



*Кіраўнік сакольскай ОСМ Генрык Самайловіч.*



*У лабараторыі займаецца лабарантка Ірэна Супінская.*

## Сакольская ОСМ дае звышпланавую прадукцыю

На Сакольшчыне багата сенажацяў. З кожным годам павялічваецца тут колькасць меліяраваных і загаспадараных зялёных угоддзяў. Нічога тады дзіўнага, што сяляне пачалі гадаваць больш кароў. Цяпер штодзень дастаўляюць яны на пункты скупкі больш 30 тысяч літраў малака. Найбольш на скупачных пунктах у Малявічах, Янаве, Багушах.

Перапрацоўкай гэтай белай сыравіны займаецца Акруговая малачарская спулдзельня (ОСМ) у Саколцы. Кожны дзень дастаўляе яна на рынак каля 1 400 кілаграмаў масла, апрача таго фруктовы і ванільны тваражкі, кефір і іншыя прадукты малочнага паходжання. Рабочыя сакольскай малачарні не толькі выконваюць, але і перавыконваюць гадавыя прадукцыйныя планы. У 1973 годзе абавязаліся яны ў рамках акцыі „30 мільярдаў“ даць дадатковую прадукцыю агульнай вартасці 6 мільёнаў злотых. Абавязацельствы перавыканалі. Далі дадаткова на рынак масла, тварагу і казеіна — на суму 8 мільёнаў злотых. Вялікая ў гэтым заслуга шматгадовых рабочых, а таксама старшыні спулдзельні Францішка Шубзды і кіраўніка прадукцыі Генрыка Самайловіча. Урэшце ўсяго рабочага калектыву, які налічвае 70 чалавек.

Акруговая малачарская спулдзельня ў Саколцы належна дбае аб разбудове сеткі злеўняў малака. Зараз іх 53. У мінулым годзе прыбыло тры і ў гэтым годзе колькасць іх павялічыцца яшчэ на 4. Новыя пункты скупкі малака, адкрытыя ў мінулым годзе ў Кнышэвічах, Белавусах і Шудзялаве, як і многія іншыя, забяспечаны халадзільным абсталяваннем.

Варта адзначыць і той факт, што ОСМ у Саколцы належна задбала пра сваіх пастаянных дастаўцаў малака. З тымі сялянамі, якія дастаўляюць многа малака, падпісала яна шматгадовыя дагаворы адносна дастаўкі малака. Усім гэтым сялянам гарантуюцца грашовыя крэдыты і дапамога ў выпадку, калі б хацелі яны будаваць новыя кароўнікі або мадэрнізаваць старыя. Яны таксама ў першую чаргу забяспечваюцца кармавымі мяшанкамі.

ОСМ рацыянальна расходуе сыроватку. Сельгасгурткоўскія трактары развозяць яе сялянам у навакольныя вёскі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Ці ведаеце, што...

...Масква налічвае 7,5 мільёна жыхароў і з'яўляецца найбольшым прамысловым цэнтрам Савецкага Саюза.

...маскоўскія фабрыкі выпускаюць кожны дзень 2694 тэлевізары, 1390 радыёпрыёмнікаў, 39 тыс. гадзіннікаў, 1000 халадзільнікаў, 416 пралек, звыш 3 мільёнаў квадратных метраў тканін і 120 тыс. пар абутку. Кожны дзень 350 сем'яў атрымоўваюць новыя кватэры. (ті)




Калі мы гаворым аб нечым такім, што трэба старанна даглядаць, рупліва ахоўваць, берагчы, шанаваць, тады мы кажам: „Глядзець трэба, як вока ў ілбе“, бо вока адно з найважнейшых органаў чалавечага арганізму. Слепата залічаецца да найпаважнейшага калецтва. Сляпых людзей на свеце налічваецца больш як 15 мільёнаў. Даныя гэтыя далёка няпоўныя, таму што ў многіх краінах не вядзецца статыстыка сляпых. У Польшчы сляпых ёсць каля 26 тысяч чалавек, а на Беласточчыне больш як 1 800.

Розныя ёсць прычыны страты зроку. Ёсць нямала выпадкаў, што дзеці родзяцца сляпымі па прычыне хваробы бацькоў, або па прычыне розных пашкоджанняў плоду падчас цяжарнасці жанчыны, ці пры цяжкіх родах.

Многія людзі страцілі зрок падчас вайны. Цяпер выпадкі слепаты часта здараюцца ў выніку невыконвання правіл БГП і гігіены. Узнікаюць пры гэтым розныя хваробы, якія, калі не лячыцца, вядуць да слепаты. Гэта перш за ўсё зацьма, яскра, занік вачных нерваў і інш. Агульныя хваробы, якія пашкоджваюць таксама зрок, гэта высокі ціск крыві, скляроз, цукровая хвароба і хваробы нырак. Страціць зрок можна таксама, затруўшыся алкаголем, нікатынам, волавам і г.д. Так што розныя ёсць прычыны страты зроку.

У нашай краіне кожны год трацяць зрок амаль 2.000 чалавек. Людзі, калі перастаюць бачыць, перажываюць страшэнную трагедыю. Чалавек, здаровы і моцны, раптоўна становіцца бязрадным, як маленькае дзіцё. Не можа ён сам апрануцца, памыцца, з'есці, знайсці патрэбныя прадметы і свабодна рухацца нават у сваёй хаце. Быў ён, напрыклад, здольным рамеснікам, бухгалтарам і раптоўна сцвярджае, што ніколі не зможа ў сваёй прафесіі працаваць, што ніколі не ўбачыць свайго дзіцяці, жонкі, бацькі, знаёмых. Сцвярджае, што праваліліся ўсе яго планы, намеры, яго жыццё. Час для яго стаў выдоўжвацца і дарога, якою ён крочыць. Слепата баліць яму проста фізічна. Не можа ён пагадзіцца са сваім няшчасцем. Усёй сваёй істотай бунтуецца і дарэмна мёртвымі вачыма ўглядаецца ў святло наймацнейшых электрычных лямпачак або ў яркае сонца. Можа хаця адзін прамень пранікне да яго вачэй! Усё дарэмна. Вочы яго выпаўняе густая імгла, яснейшая пры стамленні, цямнейшая пасля адпачынку. Аслепшы чалавек часта ў роспачы думае аб самагубстве, часам пападае на доўгі час у псіхіятрычную бальніцу. Расце ў ім пачуццё паніжаючай залежнасці ад іншых. Гэты безнадзейны бунт супраць слепаты і цяжкая барацьба з нечаспадзяваным няшчасцем працягваецца ў некаторых год-два, а ў некаторых нават тры гады. Аб гэтым расказвалі мне амаль усе мае субяседнікі, якія раптоўна страцілі зрок. У вялікай ступені глыбіня гэтых перажыванняў залежыць ад таго, як хутка аслепшы чалавек атрымае разумную дапамогу ад найбліжэйшых людзей.

Гэтага патрасення не ведаюць людзі, аслепшыя ў дзяцінстве, яны або не бачылі сваімі вачыма нічога, або ўжо забыліся, для іх бяссветны свет з'яўляецца асяроддзем амаль нармальным.

Вельмі добра, калі аслепшы чалавек хутка скантактуецца з Польскім саюзам сляпых (ПЗН), дзеячы якога дапамогуць яму хутчэй заакцэптаваць палажэнне, дапамогуць прыступіць да грамадскай і прафесіянальнай рэабілітацыі. Бо хто як хто, але сляпы чалавек, які сам перажываў трагедыю свайго калецтва і знайшоў сэнс жыцця ў новых, змененых умовах, абапіраючыся на свае прыклады, найлепш зможа пераканаць аслепшага чалавека ў тым, што калі ён моцна захоча, зможа быць далей вартасным чалавекам нашага грамадства, навучыцца пісаць алфавітам Брайля і чытаць кніжкі, ім пісаныя, што ён зможа навучыцца падыходзячай яму прафесіі і будзе далей працаваць і забяспечваць сябе і сваю сям'ю.

У акруговым праўленні Польскага саюза сляпых на вуліцы Крашэўскага ў Беластоку адна з дзеячоў гэтай арганізацыі — Паўліна Станішэўская, якая ўжо 22 гады не бачыць (ёй цяпер 68 год), падчас майго там візіту гаварыла: „Мы павінны быць цвёрдымі, патрабавальнымі да сябе, каб справіцца з нашымі жыццёвымі цяжкасцямі, і мы ўмеем гэта рабіць, мы не патрабуем літасці ад людзей, хочам толькі, каб людзі з вачыма разумелі нас і адносіліся да нас з павагаю і часам памагалі нам кудынебудзь дайсці, напісаць заяву, нешта прачытаць, прыйсці з тэхнічнаю дапамогаю. Гэтага ў першую чаргу патрабуюць сляпыя сяляне, якіх на Беласточчыне налічваецца амаль 500 чалавек (зразумела, што яны гаспадараць пры дапамозе сваіх сем'яў). Некаторыя з іх атрымліваюць нават добрыя вынікі ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Аб гэтым сведчыць той факт, што 7 сляпых сялян атрымалі адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны“, а самотны Браніслаў Пурта з вёскі Зуболе ў Манецкім павеце адзначаны за добрае развіццё гаспадаркі Кавалерскім Крыжам Адраджэння Польшчы.

Добрыя вынікі ў працы атрымалі таксама тры прадпрыемствы на Беласточчыне (2 у Беластоку, 1 у Сувалках), у якіх пасля спецыяльнай падрыхтоўкі працуе больш як 800 сляпых. Вартасць іх прадукцыі згодна з планам 1973 года павінна была скласці 66 мільёнаў злотых, а склала 69 мільёнаў злотых.

Сляпыя Беласточчыны працуюць таксама на іншых прадпрыемствах, у шпі-

# Максім Багдановіч НА-ПОЛЬСКУ

**Лодзінскае выдавецтва выпусціла «Выбраныя вершы» Максіма Багдановіча. Кніжка выйшла ў цвёрдай, палатнянай вокладцы і налічвае 119 старонак. Складальнікам яе з'яўляецца Ян Гушча. Ён у асноўным быў і перакладчыкам Багдановічавых вершаў на польскую мову, а таксама напісаў уступны артыкул і зрабіў аднатацыі. Тыраж 1000 экз. Цана 21 зл.**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У „Доме кнігі" ў Саколцы, вул. Гродзенская 5, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Мастацтва Беларускай ССР, 1971, цана 18 зл. 50 гр.

Альбом дасканалых каляровых рэпрадукцый карцін і здымкаў скульптур, якія знаёмяць з 50-гадовай гісторыяй беларускага савецкага выяўленчага мастацтва. Склаў альбом і напісаў уступны артыкул кандыдат мастацтвазнаўства Л. Н. Дробаў. Выданне змяшчае рэпрадукцыі і фатаграмы 70 карцін і скульптур, выйшла яно ў юбілейнай серыі, прысвечанай 50-годдзю СССР.

Гравюры Францыска Скарыны, 1972, цана 35 зл. 90 гр.

Элегантны альбом гравюраў, якімі аздобіў свае выданні беларускі першадрукар Ф. Скарына. У выданні знаходзім выкананыя на высокім тэхнічным узроўні фатакопіі гравюр, заставак, віньетак і загалоўных літар. Уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і іх мастацтвазнаўчы аналіз Л. Баразны.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі, 1970, стар. 440, цана 8 зл. 20 гр.

Кароткі бібліяграфічны даведнік пра жыццё і творчасць усіх беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якія з'ўляліся членамі Саюза беларускіх пісьменнікаў з дня ўтварэння гэтай творчай арганізацыі і па 1 студзеня 1969 года.

Багдановіч Максім, Вершы, 1973, стар. 224, цана 1 зл. 70 гр.

Зборнік выбраных твораў выдатнага беларускага паэта. Уступны артыкул належыць пяру Н. Гілевіча.

Сабаленка Раман, Спатканне пасля разлукі, 1971, стар. 256, цана 4 зл. 30 гр.

Том прозы вядомага сучаснага беларускага пісьменніка старэйшага пакалення. У выданне ўваходзяць аповесць „Трэці лішні" і дзесяць апавяданняў.

Кнігарня ў Саколцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", Sokółka, ul. Grodzieńska 5, woj. białostockie.

(мг)

## ФАЛЬКЛОР

СЯМЕЙНАЯ




*— Ой, лета надходзіць, а я ніжанаты.*
*Пасеяў я жыто — німа каму жаці.*
*Пасеяў я жыто — німа каму жа(ці).*
*Пасеяў я жыто — німа каму жаці.*
*А мне маладому не с кім размаўляці.*
*А мне маладому не с кім размаўля(ці).*
*— Ой, на табе, сынку, рубля залатого —*
*Паедзь, купі, сынку, каня варанога.*
*Паедзь, купі, сынку, каня варано(го).*
*Паедзь, купі, сынку, каня варанога.*
*Пастаў у стаенцы, размаўляй да яго.*
*Пастаў у стаенцы, размаўляй да я(го).*
*— Ой, каб табе, маці, цяжко было ўміраці,*
*Як мне маладому — з канём размаўляці.*
*Як мне маладому — з канём размаўля(ці).*
*Конь вады нап'еццa, на саломі ляжа,*
*А мне, маладому, праўданькі ні скажа.*
*А мне, маладому, праўданькі ні ска(жа).*
*— Ой, на табе, сынку, рубля залатого —*
*Паедзь на Украіну выбяраць дзяўчыну.*
*Паедзь на Украіну выбяраць дзяўчы(ну).*
*— А нашто мне, маці, чужая краіна,*
*Калі ў суседа да душы дзяўчына?*
*Калі ў суседа да душы дзяўчы(на).*
*— Ні глядзі ты, сынку, на чорныя брові,*
*А глядзі ты, сынку, на сівыя волы.*
*А глядзі ты, сынку, на сівыя во(лы).*
*— Ой, сівыя волы возьмуць паздыхаюць,*
*А чорныя брові нігды ні зліняюць.*
*А чорныя брові нігды ні зліня(юць).*

Ад Галены Тучынскай, 1923 года нараджэння, вёска Мастаўляны Беластоцкага павету, запісаў 25 кастрычніка 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

## І ЎСЕ БАЧАЦЬ...

Штодзень пэкаэсаўскімі аўтобусамі падарожнічае многа людзей. З году ў год павялічваецца круг вёсак, у якія пачынае ездзіць аўтобус. Залежыць гэта найчасцей ад стану і якасці дарог. Аўтобусы, як вядома, затрымліваюцца на прыпынках. На многіх з іх ёсць трох- і чатырохсценныя будкі, якія даюць падарожным прытулак ад холаду і завеі. Пачакальні мы адразу заўважаем, калі прыходзіцца чакаць аўтобуса пасярод пустога поля. Не кожны аднак аўтобусны прыпынак з'яўляецца спакойным прыстанішчам для пасажыраў. На многіх з іх будкі не вабяць вока чысцінёй і парадкам. Ёсць будкі з абшарпанай столлю і скразнякамі. Ля іх непрыемны пах...

На аўтобусным прыпынку паблізу вёскі Кутавая, Гайнаўскага павету, нехта абарваў інфармацыйную таблічку з раскладам ад'ездаў аўтобусаў, ды паламаў лавачку. У Рэпісках (таксама на Гайнаўшчыне), пэўна, некаму спадабалася інфармацыйная таблічка, і ён яе скрунуў, калі ніхто гэтага не бачыў. Мо цяпер нават сароміцца гэтага ўчынку? А пасажырам цяжка здагадацца, калі прыедзе аўтобус. Асабліва нетутэйшым. У Харошчы Беластоцкага павету інфармацыйная таблічка ПКС ляжыць сабе ля прыпынкавага стоўбіка. Пасажыры глядзяць на абдзерты стоўбік, а інфармацыйнай дошкі ні следу. Ну, можа след то ёсць, бо вывіхнуты скрутак бляхі сведчыць, што таблічка была тут прымацавана. У рамках узаемадапамогі інфармуюць пасажыры адзін другога, што дошчачка пад стоўбікам і — будзьце ласкавы паглядзець. Пасажыры згінаюцца, быццам бы фіззарадкай займаліся. У Орлі Бельскага павету пачакальню пабудавалі перад самымі Цэнтральнымі дажынкамі ў Беластоку. Цяпер у ёй не хапае акна. Дарма, што сама моладзь малявала і ўпрыгожвала пачакальню. У бруднай і абшарпанай пачакальні ў Бельску Падляшскім штодзень збіраецца натоўп пасажыраў. Вакол аўтобуснага вакзала вялікія непаладкі. Поўна раскіданай паперы, рознага смецця, паламаны лавачкі, з-пад снегу тырчаць старыя таблічкі з раскладам. Прыкладаў такіх можна было б прыгадаць яшчэ больш.

Усё больш людзі ездзяць аўтобусамі. На аўтобусных прыпынках усе яны бачаць, як не трэба нішчыць аб'ектаў супольнага карыстання.

Але ж людзі іх і нішчаць... Прыкрая справа.

(ця)

---

талях — масажыстамі, самастойнымі рамеснікамі, а тыя, што хацелі вучыцца, паступілі ў вышэйшыя школы. Некаторыя ўжо з'ўляюцца магістрамі. І так, Мікалай Кацюра з Гайнаўшчыны закончыў юрыдычны факультэт і працуе на пасадзе прэзаса ўстановы па рэабілітацыі інвалідаў у Беластоку. Ян Канецкі з Граеўскага павету, магістр эканоміі, займае адказную функцыю ў спулдзельні працы „Аднова". Станіслаў Катоўскі, магістр псіхалогіі, з'ўляецца дырэктарам рэабілітацыйнай установы ў Хажове, а Адам Ляскоўскі ўзначальвае прадпрыемства прадукцыі шчотак. Усе яны з Беласточчыны.

У Польшчы сляпых фізічных рабочых налічваецца 8.209, сялян — 1761, разумовых працаўнікоў — 860, у тым ліку 54 асобы з'ўляюцца настаўнікамі. Апрача таго, 450 асоб працуюць масажыстамі і карыстаюцца вялікім аўтарытэтам у пацыентаў (даныя з ПЗН на 31.XII.1971 г.).

Праца для сляпога адыгрывае велізарную ролю. Яна не толькі дае сродкі для жыцця, але і рэабілітуе сляпога псіхічна і грамадска. Свядомасць таго, што ён прыносіць карысць людзям, што ён патрэбны, што лічыцца ў грамадстве, дае яму падставы для гордасці.

— Але ёсць і такія факты, — гаворыць кіраўнік Акруговага праўлення саюза польскіх сляпых у Беластоку Ю. Яськевіч, — што сляпыя жабруюць. Ганьбіць нашу арганізацыю Станіслаў Літвін, які прыязджае з Гайнаўкі і сядзіць на драўляным чамадане пад „Падлясянкаю" ды просіць міластыні. А ён і яго жонка маюць рэнту, маюць запэўнены быт. Шмат правялі мы з ім размоў, але нічога не памагае.

З вялікай дапамогай сляпым прыходзіць наша дзяржава. Існуюць для сляпых дзяцей прадшколлі, пачатковыя школы з інтэрнатамі, засаднічыя школы, школы масажыстаў, музычная школа, установы па падрыхтоўцы да працы аслепшых і іншыя ўстановы. Вядома, ёсць спецыяльныя прадпрыемствы для сляпых, а для сялян у Шэпетове на сельскагаспадарчым доследным прадпрыемстве сляпыя сяляне атрымліваюць тэарэтычныя і практычныя сельскагаспадарчыя веды.

Польскі саюз сляпых выдае ў друку Брайля 6 часопісаў і два тыднёвікі для дзяцей. У 120 святліцах, якія выкарыстоўвае ПЗН, арганізуюцца культурныя заняткі, а таксама розныя формы курсаў для дарослых, пры прафсаюзных святліцах існуюць мастацкія самадзейныя калектывы, у якіх сляпыя могуць развіваць свае зацікаўленні. Зразумела, што ва ўсіх школах, на ўсіх прадпрыемствах, ва ўсіх арганізацыях і мастацкіх калектывах сляпым неабходна дапамога людзей здаровых. Ды наогул людзі з вачыма павінны пры кожнай нагодзе аказаць дапамогу сляпому.

І ты, дарагі чытач, калі ідзеш і бачыш чалавека з белай палачкай, вазьмі яго пад руку і памажы перайсці праз вуліцу, дапамажы яму ўвайсці ў магазін ці ўстанову. Памятай, што гэта твой абавязак.

**Міхась Хмялеўскі**

## З маёй званіцы

### БУДЗЕ ГАСПАДАРАМ НА ПІРАГІ, ХОПІЦЬ І СВІНКАМ „НА САЛА"

Калісьці з мяне, малога, жартавалі, што белыя мышы могуць вадзіцца толькі на млыне — вядома, мукою прыпарошаныя. На гарадоцкім млыне, які я нядаўна наведаў, ніякіх мышэй, праўда, няма, усе працаўнікі аднак з кіраўніком Станіславам Лапічам разам салідна „прыпудраны" белым пылам.

Пан Станіслаў (так яго, як добрага сябру, прывыклі называць сяляне і супрацоўнікі) кіруе тут пастаўкай „матэрыялу" на булкі, пірагі, блінчыкі да кашкі ўжо 12 год. Кажуць, што ў закінутых старых млынах часта чэрці і іншая нечысць водзяцца — самі колы скрыпяць. Самі жорны варочаюцца — жах адзін.

Прыглянуўшыся да працы міні-камбіната пана Станіслава, таксама проста дзіву даешся — у чары гатоў паверыць. А калі ўнікнеш у планы, дасягненні, кошты і іншую дакументацыю, справа ясная — ён чарадзей і ўсё. Ну, бо як іначай?

Паспрабуй, калі ласка, выканаць план за першых 6 месяцаў у 181,4%! Паспрабуй даць за гэты самы час гэесу 125 тысяч чыстага даходу! І ўсё гэта сіламі пяці чалавек.

Ёсць яшчэ другая справа. Як гэта, каб цэлых 12 год працаўнікі самі праводзілі ўсю кансервацыю і рамонты, ні разу не спыняючы прадукцыі? Хоць — не!

Тут бы я змахляваў. Быў, сябры, выпадак. Гады два таму назад узяў і ў „зачараваны" млын пярун трэснуў. І што думаеце? Дзякуючы добраму забеспячэнню толькі праводка крыху прысмалілася. Праз некалькі гадзін ізноў затраскаталі машыны.

Цэлай страты, кажуць, столькі было, што адзін з чакаючых сваёй чаргі „дзядзька" са страху аб шклянку, якую да рота падносіў, зубамі ляснуў, а другі, сусед ягоны, селядцом мала не падавіўся. Так што бачыце самі — варта такой цацаю пацікавіцца. Стаў я сабе ў старонцы і прыглядаюся. Не такі я, думаю. Мяне нават млынар і той на мякіне не правядзе. Ніхто, бачу, не спяшаецца і не бегае. Пад'язджаюць, акрамя сялянскіх фурманак, поўныя збожжа самаходы. Ссыпаюць зярно ў бункер і адразу падстаўляюць пустое „пуза" пад карыта, якім зверху „сьрута" сыплецца. Пачынаю дапытвацца.

Аказваецца, што саракагадовы пан Станіслаў ужо 25 год працуе ў сваёй прафесіі. Зубы на ёй з'еў, як кажуць. Любіць ён яе і ганарыцца ёю. Цешыцца, што акрамя паслуг для сялян мае магчымасць выдатна памагаць мяшальні кармоў са станцыі Валілы. Дзеля гэтага якраз ён запраектаваў і разам з працаўнікамі правёў мадэрнізацыю прадукцыі.

Трэба было паставіць новы „сьрутоўнік". Мяшкамі да яго збожжа падносіць, вядома, — горб вырасце, а толку не будзе. Трэба было хоць часткова аўтаматызаваць працэс. Цяпер зярно сыплецца „люзам". Высыпаў, пад'ехаў пад слізгкарыта і забірай гатовую „сьруту".

Уся мадэрнізацыя з коштам машыны ўключна абышлася гэесу ў 20 000 зл. Прадукцыя млына ў выніку яе ўзрасла на 150 тон у месяц. Паважна ўзраслі даходы прадпрыемства. Нездарма пан Станіслаў атрымаў высокую грашовую прэмію (13.000 зл).

Цікава і тое, што ўсё гэта працаўнікі млына зрабілі ўласнымі сіламі, не спыняючы ні на хвіліну працы млына, за адзін месяц часу.

— Няма тут ніякіх чараў, — тлумачыць пан Станіслаў. — У нас проста згодны і працавіты калектыў. Важна таксама і тое, што гарадоцкі гэс, якому мы ад 1.I.1973 г. падлягаем, памагае чым можа і заахвочвае да працы. Прэзас Паплаўскі ў ніякую бюракратыю не гуляе. У яго гаспадарскі падыход. Калі ёсць эканамічны разлік — трэба рабіць. Праўленне гэесу пры тым і пра сацыяльныя ўмовы не забываецца. Пагляньце вы! Хочаш пакупацца — калі ласка. Ёсць душ, пускай на выбар халодную ці гарачую ваду. Ёсць дзе пасядзець, снеданне з'есці. Думаем цяпер яшчэ зрабіць рамонт — памаляваць усё нанава.

— Ёсць і яшчэ адна думка. Бачыце, сялянам у нас усё яшчэ мяшкі насіць трэба. Вось і камбіную, каб гэта яны з вагі на фурманку самі каціліся. Навошта мучыцца людзям?

І як вам здаецца? Напэўна „выкамбінуе" і зробіць. Для людзей, якія любяць сваю прафесію і працуюць, як кажуць, не за грошы, а за совесць, спраў немагчымых няма.

**Ларс**

 

БУДАЎНІЧЫЯ ПАРАДЫ



# Жылы дом з ПАВЕРХАМ

Паводле праекту (ZBŁ-3), які вы бачыце побач, гэта жылы асабняк з паверхам, прадбачаны для адной шматлікай сям'і. Ён складаецца з пяці пакояў і даволі прасторнай кухні.

Здаецца, што ў нашых умовах лепш было б будаваць такі дом з прызначэннем для двух сем'яў: бацькі і жанатага сына, або двух жанатых братоў. Жылая плошча гэтага асабняка складае звыш 110 квадратных метраў, а дом з паверхняй 55 квадратных метраў поўнасцю забяспечвае патрэбы тыповай сялянскай сям'і.

Тады аднак неабходна крыху інакш распланаваць забудову паверха. Паглядзіце на план паверху. Аўтары праекта запланавалі там два спальныя (11 і 12) і адзін дзіцячы (13) пакоі. Яшчэ аставалася даволі прасторная ніша (алькоў) — 14.

Мы прапануем зрабіць інакш. Пакой 13 ператварыць у кухню, адгарадзіўшы яго сценкай ад гэтай нішы і пабудаваўшы кухонную плітку побач коміна. Нішу 14 таксама трэба перагарадзіць на дзве няроўныя часткі, але так, каб даходзіў да іх свет з акна. У адной, большай частцы абсталюем санітарны пакой, уваход у які з калідора праз прабітыя дзверы побач лесвіцы. Меншая частка стаецца тады падручнай кладоўкай, якая праз дзверы спалучаецца непасрэдна з кухняй. Яшчэ толькі замураваць, або заставіць, напрыклад, шафай, дзверы з калідора ў пакой 11, а прабіць дзверы між пакоямі 11 і 12 і атрымоўваем зручнае асобнае памяшканне з поўным абсталяваннем.

Папраўкі да праекту зазначылі мы пунктаванай лініяй. Трэба толькі памятаць, што ўсе гэтыя пераробкі неабходна ўзгодніць з будаўнічым рэферэнтам у гміне. Усё іншае вы знойдзеце ў праекце, які можна атрымаць у гміне.

Такім чынам дзве сям'і могуць пабудавацца на адной будаўлянай пляцоўцы велічынёю ў 76 квадратных метраў. Будуючы разам, мы змяншаем кошт пабудовы. Адна і другая кватэра амаль нічым не розняцца, дык нікому крыўды не будзе.

**М. Нурэцкі**




Куток практычных ведаў




## НОГІ, НОГІ...

Ці ёсць спосабы, якія дазвалялі б змяніць на карысць выгляд ног? Ці можна зрабіць іх танчэйшымі, або таўсцейшымі? Так, ёсць. Але напэўна не будзе гэта пластычная аперацыя. У ніякім выпадку! Можна аднак, падбіраючы спецыяльныя практыкаванні, плаваючы і займаючыся іншымі відамі спорту, пастаянна гімнастыкавацца і гэта будзе вельмі карысна для ног.

Напрыклад, калі вы хочаце, каб ваша нага стала больш поўная, варта ездзіць на веласіпедзе, на лыжах. Зразумела, што патрэбна тут сістэматычная трэніроўка, трэніроўка ад часу да часу не дае жаданых вынікаў. Калі ногі занадта поўныя з прычыны агульнай паўнаты, то перш за ўсё прымяняецца дыета, каб пахудзець, а акрамя таго, штодзённы(!) масаж ног шчотачкай. Дзякуючы лепшаму кровазвароту „засядзеўшаяся" тлушчавая тканка прыйдзе ў рух, а новая не будзе адкладацца.

Сучасная жанчына не павінна забывацца пра свае ногі, не павінна свяціць палопаўшыміся пятамі. Ногі неабходна штодзённа мыць у цёплай вадзе, найлепш тлустым мылам (у тым выпадку толькі, калі ногі пацеюць, трэба мыць іх мылам „Ого" ці фармалінным). Калі вы шмат гадзін прастаялі ці стаміліся ідучы, вельмі добра было б зрабіць масаж ног (заўсёды ў напрамку сэрца!), а пасля гэтага ўцерці ў ногі паўтлусты крэм або спецыяльны крэм для ног.

Калі вашы пяты балюча лопаюцца, варта рабіць ванначкі з гарачай і халоднай вады наперамен. У двух вядзерцах падрыхтоўваем ваду — у адным вельмі цёплую, у другім халодную — і перакладаем ногі з аднаго вядзерца ў другое праз кожныя 15—20 секунд. Робім гэтак прынамсі 20 разоў. Пасля гэтага масуем ногі махровым ручніком.

Калі ногі вашы моцна пацеюць (а з гэтым непрыемным клопатам маюць дачыненне вельмі многія людзі), варта разы тры ў тыдзень мачыць ногі ў цёплым напары зёл „Pedisan". Калі на нагах няма ран, раз у тыдзень можна зрабіць ванначку з фармалінам (2-3 грамы на міску вады). Трэба хадзіць як найчасцей боса. Нельга насіць гумовага абутку. Раніцай, калі вы апранаеце чыстыя шкарпэткі ці панчохі, варта ўсыпаць у іх крыху парашку борнай кіслаты.

Вельмі церпяць людзі, у якіх на нагах завядзецца грыбок. Выступае ён паміж пальцамі. Гэтыя месцы моцна свярбяць, яны становяцца чырвоныя, лопаюцца, крывавяць і баляць. Грыбка можна набрацца ў басейнах (ходзячы па мокрых дошках), можа ён паявіцца, калі вы носіце занадта цесны ці гумовы абутак, а ногі вашы пацеюць. Грыбок ног лечыць наогул доктар-дэрматолаг. Але варта ўсё ж памятаць, каб ад нікога не пазычаць губак, ручнікоў, а нават і туфляў, хаця былі б яны найпрыгажэйшыя.

Калі ў вас пухнуць ногі, то абазначае гэта, што нешта не зусім у парадку з вашым сэрцам ці ныркамі. Асабліва варта занепакоіцца, калі пухліна не праходзіць і раніцай пасля начнога адпачынку, калі пад націскам пальца застаюцца ямачкі, як у цесце. Трэба тады ісці да доктара. Але наогул варта тады адпачываць з высока паднятымі нагамі, рабіць пераменныя (гарачыя і халодныя) ванначкі.

Калі на вашых нагах замнога валаскоў (у выпадку ног нельга гаварыць аб нейкіх гарманальных зменах), нельга дапусціць да таго, каб ногі занадта інтэнсіўна загарэлі. Пад уплывам сонца і тлустых крэмаў колькасць валаскоў гвалтоўна павялічваецца. У продажы ёсць сродкі для ліквідацыі валаскоў, дзейнічаюць яны хімічна. Не ліквідуюць аднак цыбулек валаскоў, і таму трэба ўжываць гэтыя сродкі рэгулярна, не часцей аднак, чым раз у 10 дзён. Калі валаскі на нагах рэдкія і не вельмі цёмныя, можна спрабаваць змазваць іх ваткай, змочанай ва ўтлянёнай вадзе з дадаткам некалькіх кропель нашатырнага спірту. Праз 15 мінут ногі трэба спаласнуць цёплай вадой. Валаскі стануць светлыя.

Калі падчас нейкай з зім вам давялося ногі адмарозіць, трэба будзе выкарыстаць летні перыяд, каб падлячыць іх. Грэць іх як найбольш на сонцы, загараць. Цэлы год сістэматычна прымяняць пераменныя ванначкі.

**Эскулап**






— Польшча не Беларусь, таварыш палкоўнік, — адказаў Глебаў, — ды і часу мала, толькі што прыйшлі, не агледзеліся як след.

— На вайне час скупы, Глебаў, на што раней аддавалі гады, вайна адмервае месяцы, а то і дні. Пара ўжо нам агледзецца, глыбей увайсці ў абстаноўку. Вось вы скажыце, што вам вядома пра Польшчу, пра Кудароўшчыну?

Глебаў, напружваючы памяць, успомніў пра нейкія падзелы Польшчы, пра Тараса Бульбу, які біўся з ляхамі, назваў чамусьці Пілсудскага. А пра Кудароўшчыну ведаў толькі тое, што паведамляла яму карта двухкіламетроўка. А Лузан абрадаваў палкоўніка. Ён ведаў многае не толькі пра краіну ўвогуле, але і аб вёсцы Кудароўшчыне. Выняўшы з планшэткі блакнот і пагартаўшы яго, Лузан паведаміў:

— У Кудароўшчыне, прыкладна, з дзесятак двароў даволі заможныя. Па-нашаму, кулакі. Самы буйны кулак — гаспадар вось гэтай хаты, пан Казімір Вышаслаўскі. У яго два сыны, адзін служыць у войску Польскім, а пра другога ніхто нічога не ведае, магчыма, у лясной бандзе. Ёсць многа былых парабкаў пана Мазавецкага, ёсць партызаны, ёсць вязні Майданека.

— Вось-вось, Пётр Пятровіч, — ажывіўся палкоўнік, — вось што трэба. Але гэта толькі пачатак. Наша місія не толькі ў тым, каб фашыстаў з Польшчы выкінуць, але і дапамагчы працоўнаму народу ўнутраных ворагаў адолець, новае жыццё наладзіць. Тады і народ дапаможа нам. А для гэтага зноў-такі трэба ведаць краіну і яе людзей.

Палкоўнік памаўчаў, дакурыў цыгарэту.

— Становішча ў Польшчы, як вы ведаеце, складанае, — задумліва працягваў ён. — Народ змагаецца з фашыстамі, а эмігранцкі ўрад у Лондане стараецца накіраваць гэтую барацьбу супраць нас. Пасля немцаў вораг нумар адзін — Саветы. Вось іх лозунг. А па праўдзе сказаць, фашысты для іх больш прыемныя, чым бальшавікі. Лонданскі ўрад мае тут сваё ўзброенае падполле — шматлікія лясныя банды, цэнтры вярбоўкі, шырокую сетку вопытных агітатараў — і ставіць сваёй мэтай аднавіць у краіне ранейшы рэакцыйны рэжым. На вызваленай тэрыторыі гэтыя сілы вядуць барацьбу супраць нас і супраць сапраўдных патрыётаў Польшчы. Нам трэба добра разбірацца, хто тут наш сябра і хто вораг. Сяброў паклікаць на дапамогу і памагаць ім.

Некалькі хвілін усе трое моўчкі курылі. Увайшоў дзяжурны і далажыў, што асабовы склад заставы для гутаркі сабраны. Палкоўнік пайшоў.

— Васіль Васільевіч мае рацыю, — адразу ж азваўся Глебаў. — Кантакты з мясцовымі жыхарамі, іх дапамога — і тады ўсе нашы задачы мы рашым хутчэй і лепш. Давайце так, Пётр Пятровіч, вы зоймецеся старастам, партызанамі і пастарайцеся арганізаваць што-небудзь накшталт атрада самаабароны. А я пазнаёмлюся бліжэй з Вышаслаўскім і яго акружэннем. Гэтых людзей трэба трымаць у полі зроку, яны могуць быць больш небяспечнымі, чым парашутысты. І давядзецца нам у нашым рашэнні зрабіць дапаўненне. Мы з вамі не ўлічылі банды, а яны, як бачыце, не сядзяць склаўшы рукі. Банда дзейнічае на нашым участку.

Глебаў устаў.

— Заўтра раніцай прыбывае рэзервная застава, будзем прачосваць лес, а сёння ўсіх — у дазоры і пошукавыя групы. На шашы выстаўляем пастаянны кантрольна-прапускны пункт. Пашлем туды Снапкова і Дзегцярова.

Афіцэры выйшлі ў двор. Там, гатовы да ад'езду, стаяў „віліс" палкоўніка Шпакава, шафёр і ахова сядзелі на месцах.

— Палкоўнік сказаў, што паедзем як толькі закончыцца гутарка, — адказаў шафёр на пытанне Глебава.

— Ноч на носе, дарога небяспечная, куды паедзеце? — пахмурна сказаў капітан.

— Загад палкоўніка, — спакойна адказаў шафёр, перакладваючы зручней аўтамат і гранаты-лімонкі.

— Пётр-Пятровіч, — звярнуўся Глебаў да зампаліта, — пагаварыце з палкоўнікам, каб ён застаўся нанач.

Палкоўніка Лузан не пераканаў.

— Вы ж самі мне раілі хутчэй у шпіталь, а цяпер адгаворваеце, — усміхнуўся Шпакаў.

— У такім разе вазьміце маіх аўтаматчыкаў, — прапанаваў Глебаў, — яны правядуць вас хоць бы да шашы.

— Калі вашы аўтаматчыкі, Глебаў, будуць ахоўваць усіх прыязджаючых начальнікаў, на заставе не будзе каму службу несці. Абыйдуся сваімі людзьмі.

Палкоўнік паціснуў афіцэрам рукі, і „віліс" знік у змроку вясковай вуліцы.

Глебаў нечакана ўсміхнуўся. Лузан запытальна паглядзеў на яго.

— Я ім ўсё такі аднаго чалавека падкінуў, — растлумачыў Глебаў свой вясёлы настрой, — з ручным кулямётам. ...Пакуль вы з палкоўнікам спрачаліся, я дзейнічаў.

— І Шпакаў не заўважыў?

— Не. Я Максака паслаў. Ён нізенькі, лёг на дно кузава. А хлопцаў папрасіў, каб не казалі палкоўніку.

— Дасць нам палкоўнік па шыі.

— Няхай. Затое душа спакойная.

(Працяг будзе)



 

# ◆ КАХАННЕ ◆

Закахаўшыся, я праз некаторы час прыйшоў да вываду, што зрабіў вялікую памылку. Мая любая аказалася з характарам. Ды яшчэ з якім! Я шафёр, працую ў таксаматорным парку. Дык вось, высачыць яна здалёк маю блакітную „Волгу“ і знарок стане дзенебудзь убаку, махае ручкай:

— Пад'едзь бліжэй, каб я ў лужыне туфлікі не запэцкала!

Гляну направа-налева, ці няма міліцыянера, заязджаю ледзь не на самы тратуар.

Расказаў я пра сваё жыццё-быццё даўняму сябру Толіку, чалавеку жанатаму.

— Так і так, кажу, спісваў ты, лайдак, некалі ў мяне задачкі, як сядзелі за адной партай, то хоць зараз аддзяч за маю дабрату. Парай, як мне ад сваіх пакут пазбавіцца.

Ён усміхнуўся і кажа:

— Змяні прафесію. Ідзі працаваць... ну, скажам, у даведачнае бюро.

Шкада мне было кідаць новенькую „Волгу“, але ідэя мне спадабалася.

— Канец маім пакутам, — з радасцю падумаў я і так стукнуў Толіка па плячы, што ён апынуўся ў суседнім пакоі.

Але радаваўся я рана. У першую сустрэчу мая любая засыпала мяне градам такіх мудрагелістых пытанняў, што я хапіўся за галаву: „Я хоць і працую ў даведачным бюро, але ж галава мая не энцыклапедыя!“ А яна задрала носік і не стала са мной размаўляць. Зноў я пабег да Толіка.

— Та-ак, — прамовіў ён, — гэта работа не для цябе. Паспрабуй у мантажнікі падацца.

І стаў я мантажнікам-высотнікам.

Была вясна. Увечары я наламаў ахапак духмянай чаромхі і пашыбаваў на спатканне.

— Можаш павіншаваць мяне, — кажу сваёй любай, — і з запалам пачаў расказваць аб сваёй новай прафесіі.

— Цудоўна, — сказала яна, — памятаеш сасну за возерам? На яе макаўцы такія прыгожыя шышкі вісяць...

Уявіў сабе стромкі, без адзінага сучка ствол сасны, і мне стала не па сабе.

— Я ж не акрабат, а мантажнік!

— Але ты высотнік...

На наступны дзень перад маёй любай ляжаў букет з тых самых шышак сасновых. Чаго мне гэта каштавала, гаварыць не буду.

Назаўтра Толік параіў мне падацца ў вадалазы. Але я адмовіўся наадрэз, бо тады мая каханая захоча, каб я злавіў ёй залатую рыбку. Я зноў вярнуўся да ранейшай работы, да сваёй блакітнай „Волгі“.

Суцяшаю сябе думкаю, што калі мая любая стане маёй жонкай, тады я ёй усё прыпомню...

**Фёдар Рудовіч**

# НАУКА

— *Пан дырэктар, гэта ваш сын?*
— *Не, гэта я сам у той час, калі пачыналі будаўніцтва нашага аб'екта.*

Байка з рэзалюцыяй

## Бусел на дрэве

Вусень доўга поўз і выпаўз на высокую галінку. І адтуль убачыў Чарапаху. І ахапіла Вусеня пякучая зайздрасць. Бо Чарапаха і з вышыні выдавалася дастаткова вялікай, а да таго ж значна саліднейшай, паважнейшай, чым Вусень. А што разумнейшай — дык гэта ж усім даўно вядома.

Ад той зайздрасці і пачаў Вусень пішчаць:

— Бачылі мы такіх! Пляваць я хацеў на тваю павагу. Хоць якою мудраю сябе лічыш, а ўсё па зямлі поўзаеш у сваёй шкарлупіне, сюды падняцца — дудкі!

І яшчэ розныя такія словы выкрыкваў.

Высунула Чарапаха галаву, убачыла, што Вусень і сапраўды высока ўзабраўся, не дастанеш яго там. Затым сказала:

— Гэта ж не сіла твая крычыць, не розум, а часовая высокая пасада. Ды ж вечна там сядзець не будзеш. Такія, як ты, доўга на дрэве не ўтрымліваюцца. Вецер дзьмухне як след — і ты ўпадзеш на зямлю. Вось тады мы і пагаворым.

Рэзалюцыя: „Трэба ў бліжэйшы час зрабіць рашучыя захады адносна службоўцаў, якія пры выконванні службовых абавязкаў праяўляюць зазнайства“.

**А. Крукавец**

### ПАЧУЛА

Муж вярнуўся з працы. Памыўся, прычасаўся. Сеў за стол і кліча жонку:

— Ганна!
— Што?
— Ідзі сюды.
— Га?
— Сюды ідзі, кажу!
— Не чую.
— Я грошы атрымаў!
— Так бы і казаў. А то раскрычаўся... Іду!

...Для надмагільнага помніка поўнасцю хапіла тых каменняў, якія ён насіў за пазухай.

...Сядзеў і дрыжаў. На твары жонкі, як на барометры было напісана: «Бура».

### САЛІСТ

— Ты чула: у Марысі новы хлопец. Падводнікам быў, а цяпер саліст.

— Вывучыўся з марака на артыста, значыць?

— Ды не, спачатку на падводзе гародніну вазіў, а цяпер сам яе і соліць.

### КРЫХУ УМЕЕ

Два сябры пабылі ў цырку. Вельмі спадабаўся ім жанглёр.

— А ты ўмееш так? — спытаў назаўтра адзін другога.

— Крыху ўмею, — кажа той.

— Пакажы!

— Узяў умека дзве талеркі і падкінуў іх. Тыя, зваліўшыся на падлогу, разбіліся на друзачкі.

— Што ж ты маніш? Казаў, умееш...

— Я ж сказаў: крыху ўмею. Падкідваць умею, а лавіць яшчэ не навучыўся.

### УЧАРАШНІ СУП

Жабрак стукае ў дзверы. Адчыняе жанчына.

— Чаго вам, небарака? — пытае яна.

— Ці не знойдзецца ў вас чаго-небудзь паесці?

— На жаль, нічога няма, — адказвае жанчына. — Але... пачакайце... Можа вы ясцё ўчарашні суп?

— О, цудоўна, мадам! — усклікнуў жабрак.

— Добра, тады прыходзьце заўтра.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

— *Не адцягвайце ўвагу! Тут налева!*

### ЦУДАТВОРНАЕ ЗЕЛЛЕ

Сустрэліся дзве жанчыны. Адна і бядуе:

— Такое ў мяне гора, такое гора... Не ведаю, што з ім ужо і рабіць: валочыцца мой штодня па піўных і не высыхае.

— А вы вось што зрабіце, — кажа другая. — Купіце чыстага спірту, настойце сем дзён на свягаянніку і давайце яму, паразіту, піць тры разы ў дзень па паўшклянкі перад ядою. Я свайго вось ужо год паю тым зеллем, дык ён і дарогу ў буфет забыў...

ГУМАР З

### ПРАВІЛЬНЫЯ ЛЕКІ

Адзін хворы прыйшоў да лекара.

— У мяне баліць жывот, палячыце мяне!

— Лекар спытаў:
— Што ты сёння еў?
— Хворы адказаў:
— Еў гарэлы хлеб.

Лекар хацеў закапаць кроплі ў вочы хворага, але той здзівіўся:

— У мяне баліць жывот, навошта ж ты хочаш лячыць мне вочы?

— Лекар адказаў:

— А таму, што калі б вочы твае былі здаровымі, ты не стаў бы есці гарэлы хлеб.

— *Не, гэта не лазня! Не перашкаджайце працаваць!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі Сямяцкай і Валі Гаўрылюк з Чыжоў, а таксама Анатоля Плевы з Гайнаўкі і Янкі Авечка з Баброўнік змяшчаем песню з рэпертуару Марылі Радовіч.

## MAŁGOŚKA, SZKODA ŁEZ

Słowa: Agnieszka Osiecka
Muzyka: Katarzyna Gärtner

To był maj,
pachniała Saska Kępa
szalonym, zielonym bzem.
To był maj,
gotowa była ta sukienka
i noc się stawała dniem.
Już zapisani byliśmy w urzędzie,
białe koszule na sznurze schły,
nie wiedziałam, co ze mną będzie,
gdy tamtą dziewczynę pod rękę ujrzałam z nim.

Małgośka, mówią mi,
on nie wart jednej łzy,
on nie jest wart jednej łzy.
Małgośka, kochaj nas,
na smutki przyjdzie czas,
zaśpiewaj raz, zatańcz raz!
Małgośka, tańcz i pij,
a z niego sobie kpij,
a z niego kpij, sobie kpij.
Jak wróci powiedz: nie!
Niech idzie tam, gdzie chce,
ej, głupia ty, głupia ty!

Jesień już,
już palą chwasty w sadach
i pachnie zielony dym.
Jesień już,
gdy zajrzę do sąsiada,
pytają mnie, czy jestem z kimś.
Widziałam biały ślub, idą święta,
nie słyszałam z daleka słów,
może rosną im już pisklęta,
a suknia tej młodej uszyta jest z moich snów.

Małgośka — mówią mi —
on nie wart jednej łzy,
oj, głupia ty, głupia ty.
Małgośka — wróżą z kart —
on nie jest grosza wart,
a weź go czart, weź go czart!
Małgośka, tańcz i pij,
a z niego sobie kpij,
a z niego kpij sobie, kpij!
Jak wróci, powiedz: nie!
Niech zginie gdzieś na dnie...
Ej, głupia ty, głupia ty!

### ДЫМАВОЕ АЦЯПЛЕННЕ

На ўроку фізікі настаўнік тлумачыць, якія ёсць віды ацяплення будынкаў:

— Паравое — гэта калі па трубах прыходзіць у батарэі пара. Вадзяное — гэта калі ў батарэі ідзе гарачая вада. Газавае — гэта калі ў печы гарыць газ... А цяпер скажы, Вася, якое ацяпленне ў вашым будынку?

— Дымавое, — выпаліў той, не задумваючыся.

— Як гэта дымавое? — здзіўлена пытае настаўнік.

— Бо мая маці як затопіць печ, дык паўнюсенькая хата дыму...

# КУР'ЁЗЫ

### КАШТОЎНЫЯ БІФШТЭКСЫ

Паводле паведамлення ЮПІ, адзін амерыканец у штаце Арызона прынёс у мясцовую закладную касу... тры біфштэксы. „Прымаю любыя каштоўныя рэчы“, — заявіў уладальнік касы, кладучы ў халадзільнік свежыя біфштэксы. Ён уручыў кліенту 15 долараў. „Заклад“ будзе захоўвацца 30 дзён, пасля чаго ў выпадку няяўкі ўладальніка біфштэксаў з выкупам уладальнік касы абяцаў з'есці іх сам.

### МАЎЧАННЕ ЗНАК ЗГОДЫ

Друкар Пецер ван Бурэн з галандскага горада Гронінген, пасварыўшыся 23 гады назад са сваёй жонкай, з таго часу не размаўляў з ёй, а абменьваўся запіскамі. За гэты перыяд „вялікага маўчання“ сямейная карэспандэнцыя заняла велізарную шафу, а пані ван Бурэн падаравала мужу чатырох дзяцей.

### ВЕНСКІЯ „АЎТАЧАРАПАХІ“

Згодна з вынікам даследаванняў, праведзеных нядаўна вышэйшай тэхнічнай школай у Вене, сярэдняя скорасць аўтамабіляў у цэнтры сталіцы Аўстрыі складае цяпер... 8 кіламетраў у гадзіну. Гэта не намнога адрозніваецца ад сярэдняй скорасці пешахода. Таму аўтары даследавання прапанавалі аб'явіць цэнтральную частку Вены „зонай пешаходаў“.

### „ПРАДАВЕЦ ГОДА“

Заходні друк назваў жыхара Кеніі Тан Нбога „прадаўцом года“. Нбога — прадстаўнік фірм, якія вырабляюць у сталіцы краіны Найробі медыцынскія прыборы.

Рэкорд прадаўца незвычайны: на працягу толькі аднаго дня Нбога ўдалося прадаць 21 кварцавую лямпу. Напомнім, што сталіца Кеніі размешчана непадалёк ад экватара.

# СМЯЕМСЯ З НАМІ

*Навучаны горкім вопытам — навучы таварыша!*